Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная ГАЗЕТА

No 10 30 чэрвеня— 6 ліпеня 1995 года ЦАНА 200 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Лепш быць здаровым

***Новая аптэка гасцінна адчыніла свае дзверы ў Маладзечне. Недзяржаўная,— камерцыйная,і належыць сумеснаму прадпрыемству «Белфарм». З рэкламы па тэлебачанні, у газетах многія нашы чытачы, напэўна, ведаюць гэтую фірму. Ёю створана сетка аптэк у абласных і іншых гарадах рэспублікі.***

Многія лекі замежнай вытворчасці, якія лічыліся раней дэфіцытнымі, прапануе аптэка маладзечанцам і гасцям горада. Аднак набыць іх цяпер не кожнаму па кішэні. Напрыклад, тая ж «Но-шпа» каштуе ў перакладзе на беларускія рублі (цэны выстаўлены ў доларах ЗША) 37.950р.«Панадол» — 39.100р.«Эрытраміцын» — 56.000р.«Бактрым» (сіроп) — 59.800р.«Бромгексін» — 16.100р.«Ампіцылін» — 23.900р.

Добра, што выбар лекаў тут ёсць. Але аптэчныя цэннікі яшчэ раз нагадваюць: лепш быць здаровым і звяртацца сюды як мага радзей.

***Вікторыя СПРУТ.***

Адгукнуліся адзінкі

## ЛЯГЧЭЙ ЦАРКВУ БЫЛО РАЗВАЛІЦЬ

***У Смаргоні адраджаецца праваслаўны храм. Старажылы ўспамінаюць: калі ў горадзе бальшавікі зруйнавалі царкву, людзі доўга хадзілі маліцца на тое месца, дзе яна стаяла... Затым пад царкву была прыстасавана звычайная хата. А нядаўна ўсё ж пачалося ўзвядзенне новага храма. Будоўля зацягнулася з-за недахопу сродкаў. Але сюды ўжо збіраюцца вернікі на богаслужэнні.***

***З падрабязнасцямі для чытаў «Рэгіянальнай газеты» Тэрэза КУМІШЧА:***

— Мяне адразу сюды не пусцілі. Сказалі, што вячэрняй службы няма, прыходзьце, як будуць маліцца ў чарговы раз. Сабралася ўжо адыходзіць. Але жанчына, якая адразу не пускала, раптам згадзілася паказаць, дзе адбываюцца богаслужэнні ў новай царкве.

Некалькі прыступак уніз — і масіўныя дзверы цокальнага паверха. Зусім не верылася, што гэты цокаль ужо «абжыты». На самой жа справе мы апынуліся ў беласценнай царкве, з алтаром, з іконамі на сценах, з падсвечнікамі. Усюды кветкі.

Ну проста не хочацца сказаць, не хочацца паверыць, што гэта падвал. Усюды ўтульна, чыста, невялічкія ваконцы паадчынены, каб трапляла ў памяшканне свежае паветра.

А вось і айцец Пётр. У яго быў напружаны святочны дзень. Спачатку малітва ў гэтай царкве, вечарам — у Рацавічах. Але ён не прамінуў магчымасці пагутарыць.

...Калі цокальны паверх быў амаль гатовы, вернікі, спачуваючыя царкве, простыя майстры хутка атынкавалі сцены і столь, пабялілі, пафарбавалі, правялі электрасвятло, уставілі дзверы. Удыхнулі жыццё ў гэтыя муры. З'явілася магчымасць маліцца ў значна большым памяшканні, чым гэта было раней. А разам з гэтым з'явіліся і новыя клопаты: трэба ўзводзіць будынак царквы далей, пакуль цёпла, пакуль доўгія дні.

— Цяпер будоўля прыпынілася, — з жалем зазначае айцец Пётр. — Не таму, што ў людзей страцілася энергія. Мы проста ўпёрліся ў невырашальныя праблемы. Па-першае, каб весці будоўлю ўвышыню, трэба арматура, яе няма. Па-другое, каб класці сцены, неабходна абліцовачная цэгла. І яе таксама купіць няпроста.

Тут у размову ўключаецца матушка Святлана:

— Неяк яшчэ напачатку будоўлі мы напісалі пісьмы ў камерцыйныя структуры, у дзяржаўныя арганізацыі з адной просьбай аб дапамозе ва ўзвядзенні царквы ў Смаргоні. Напісалі з адной надзеяй, што многія зразумеюць нашы агульныя патрэбы. Але адклікнуліся адзінкі. І дапамога іх мізэрная.

Вось каб цяпер заможныя ды багатыя людзі пастараліся нам дапамагчы. Колькі можна і чым можна. Мы б пайшлі на розныя варыянты. Хоць даўно вядома, што храмы ўзводзяцца на ахвяраванні прыхаджан, у нашым выпадку ўсе ахвяраванні будуць прыняты Богам, накіраваны на важную справу.

І айцец Пётр, і матушка Святлана вельмі заклапочаны тым, што ідзе час, а будоўля не рухаецца. І як тут ім дапамагчы? Дзе шукаць людзей міласэрных, ахвяравальных? А яны ёсць сярод нас, і нямала іх. І як было сказана на развітанне, трэба абудзіць іх душы, трэба,каб яны пачулі мудрыя словы: «Спешите, люди, еще звонят колокола!»

## «Вярніце нашы грошы ці будуйце дом!»

### Скандальны характар набывае гісторыя вакол будаўніцтва 144-кватэрнага дома ЖБК-1 Маладзечанскага райвыканкома.

***А дакладней, ніякага будаўніцтва не вядзецца, таму ні дома, ні нават паўдома на самой справе не існуе. Але грошы ў людзей сабралі. І не малыя. Дзе яны, гэтыя грошы, куды пайшлі, ніхто з членаў кааператыва не ведае. Па іх словах, на банкаўскім разліковым рахунку ЖБК-1 — пуста.***

А пачыналася гэтая гісторыя яшчэ ў 1992 г., калі арганізаваўся кааператыў. У маі таго ж года ўсе члены ўнеслі першы ўзнос — па 200 тыс. руб. Гэта прыкладна каля 500 долараў на той час. Сабрана было больш за 28 млн руб. 3 млн руб. заплачаны за праектную дакументацыю. Лёс астатніх грошай і спадзяюцца цяпер вызначыць члены кааператыва.

Старшыня яго Анатоль Ракоць, былы работнік райвыканкома, звольніўся. Ніякай інфармацыі няма.

І члены кааператыва пачалі біць у званы. Першай спробай знайсці дапамогу, падтрымку стаў візіт да старшыні райвыканкома П. П. Куляша. Аднак ён не адбыўся па той простай прычыне, што Пётр Пятровіч адмовіўся прыняць дэлегацыю, перадаўшы праз сакратарку, каб звярталіся да былога старшыні Маладзечанскага райвыканкома А. Я. Луновіча, які цяпер з'яўляецца старшынёй раённага Савета, дэпутатам Вярхоўнага Савета РБ.

Аркадзь Яфімавіч паабяцаў наведвальнікам патрабаваць у тыднёвы тэрмін даведку аб тым, куды былі накіраваны астатнія грошы ЖБК-1. Пачакаем гэтай інфармацыі і мы.

***Аддзел інфармацыі.***

Тэатр

## «Вольная сцэна»-- на сцэне вілейскай

*Не балуюць правінцыю прафесійныя драмтэатры. Тым больш прыемным будзе прыезд у Вілейку 30 чэрвеня сталічнага тэатра «Вольная сцэна» з дабрачынным спектаклем з шэкспіраўскіх гістарычных хронік.*

«Рычард III» у выкананні акцёраў прагучыць па-беларуску. Пасля выступлення перад вілейчанамі тэатр не думае доўга затрымлівацца ў Беларусі— у яго планах паездка на радзіму Уільяма Шэкспіра.

***Аддзел інфармацыі***



З пошты «Рэгіянальнай»

***Паважаная рэдакцыя!***

***Пачынаючы з 5-га нумара (на жаль, не з першага) чытаю «Рэгіянальную газету». Лічу, што такое выданне сапраўды неабходна і ўпэўнены, што газета будзе мець сваіх сталых чытачоў.***

***Калі на старонках газеты будуць друкавацца лісты чытачоў, то і я ад часу да часу маю намер дасылаць матэрыялы з нашага горада. Мой першы матэрыял, які пасылаю сёння, гэта не «гарачая» тэма, не сенсацыя, але,на маю думку, і такія тэмы выклікаюць пэўную цікавасць.***

***Жадаю калектыву рэдакцыі творчых поспехаў.***

***ЛІТВІНОВІЧ Франц Іосіфавіч.***

## «ПЕЛІКАН»-- помнік прыроды

### Пра гэту гару каля Жупран даўно ходзяць легенды і паданні

На тэрыторыі Ашмянскага раёна знаходзяцца не толькі помнікі гісторыі і культуры, але і помнікі прыроды. У мінулым годзе Інстытутам геалагічных навук Акадэміі навук Беларусі пачаліся навуковыя пошукі і даследаванні, у выніку якіх помнікамі прыроды прызнаны 32 аб'екты, 5 з якіх аднесены да рэспубліканскага значэння.

Сёлета даследаванні працягваліся, і яшчэ адзін аб'ект атрымаў адпаведны статус. Гэта гара, якая знаходзіцца насупраць мястэчка Жупраны, на правым беразе ракі Ашмянкі, і мае геаграфічную назву «Пелікан» (праўда, мясцовыя жыхары ўжываюць гэту назву рэдка). У выніку праведзеных даследаванняў устаноўлена, што гара ўтварылася ў адной са стадый ледніковага перыяду і складзена з слайкаватага пясчана-жвіравага і жвіра-галечнага матэрыялу. Акрамя геалагічнай каштоўнасці аб'екта, ён мае гістарычна-этнаграфічную значнасць. Таму Інстытут геалагічных навук Акадэміі навук Беларусі звярнуўся да мясцовых улад з прапановай залічыць гару «Пелікан» у якасці асабліва ахоўваемых тэрыторый. Ашмянскі раённы выканаўчы камітэт згадзіўся з прапановай вучоных і на сваім пасяджэнні 25 мая прыняў рашэнне, якім гэты аб'ект аб'яўлены помнікам прыроды і забаронена ўсякая дзейнасць, пагражаючая яго стану і захаванню. Раённай інспекцыі па экалогіі даручана забяспечыць кантроль за ахавай помніка прыроды ў адпаведнасці з заканадаўствам.

***Францішак ЛІТВІНОВІЧ***

 



# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 3 июля

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Финансовое время. 8.05 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 8.35 Студия «Политика». 8.50 «Сенсация». Худ. фильм. 9.45 Киноальманах «Беларусь». 9.55 Эхо войны в музыке Евгения Глебова. 10.20 «Черная береза». Худ. фильм. 1-я и 2-я серии. 12.50 Играет Минский молодежный ансамбль скрипачей музыкального училища им.М.Глинки. 15.00 Новости. 15.35 По следам «Сатурна», или Право на жизнь. 16.35 Концерт ансамбля «Память сердца». 17.10 Мультфильмы. 17.30 «Дело лейтенанта Приблагина». Теленовелла. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Колокола памяти». Произведения белорусских художников о войне. 19.00 «После Победы». Премьера док.сериала Белорусского телевидения. Фильм 5-й «Дорогие мои минчане». Часть 2-я. 19.45 Вертикаль. Почта Президента. 20.10 Протокол. Международная программа. 20.30 День столетия. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Клип-концерт. 21.45 Реклама. 21.55 Спортивный телекурьер. 22.10 «Пойти и не вернуться». Худ. фильм. В перерыве (23.00) -Новости. 23.45 К Дню освобождения Беларуси. «Белорусский дом». Художественно-публицистическая программа. 0.40 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 23.15 Новости. 8.20 «Тропиканка». Телесериал. 9.10 Поле чудес. 9.55 Семь дней спорта. Футбол. 10.25 Мультфильм. 10.35 «Загадочный странник». Док. сериал. 16.00 Шпаргалка. 16.05 «Элен и ребята». Молодежный сериал. 16.30 ТВ-доверие. 17.00, 20.00 Время. 17.20 «Тропиканка». Телесериал. 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». Телеигра. 19.05 Мы. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.45 «Вдовы». Телесериал. 21.35 Версии. 21.50 Гол. 22.20 Пресс-клуб.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Ритмика. 7.45 Звезды говорят. 7.50 Требуются...требуются... 7.55 Ключевой момент. 8.05 «Что посеешь...». Худ. фильм. 9.40 От нашего корреспондента. «Вся жизнь - театр». 9.55 Телегазета. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Эксповидео. 10.45 Ура! каникулы. «Бабушка Нонон и я». Мультфильм (Япония). 1-я серия. 13.20 Деловая Россия. 15.05 Там-там новости. 15.20 Праздник каждый день. 15.30 Мульти-пульти. 15.50 Клип-антракт. А.Укупник. 16.20 Никто не забыт. 16.25 Наука сегодня. 16.55 Видеопоэзия. В.Маяковский. 17.05 Российские железные дороги. 17.20 Купить - не купить. 17.30 Спасение 911. 18.25 Устами младенца. 19.25 Подробности. 19.35 «Закат солнца». Худ.фильм (Великобритания). Часть 1-я. 20.40 Репортер. 21.00 Без ретуши. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Океан». Худ.фильм (Италия, Испания, Англия). 1-я серия. Часть 1-я.

## Вторник, 4 июля

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Зеркало Си-эн-эн. 8.05 Вертикаль. Почта Президента. 8.30 Авто-парк. 8.45 День столетия. 8.50 Мультфильмы. 9.20 Протокол. Международная программа. 9.40 Телевизионный Дом кино. VII Международный кинофестиваль «Созвездие-95» в Ярославле. 10.45 Компьютерный полигон. 11.15 Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых. 11.35 «Воскресенье». Худ.фильм. 1-я серия. 13.10 «Нов и К»-топ. 15.00 Новости. 15.10 «Где ты был, Одиссей?» Худ. фильм. 1-я серия. 16.15 Творческое объединение «Мой мир». Все обо всем. 16.35 Мультфильмы. 17.00 Зигзаги приватизации. 17.30 Уроки Н.Новожиловой. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 Мультфильм для взрослых. 18.55 SOS. 19.00 Мост. 19.25 Экономикст. 19.35 К Дню независимости США. Выступление Чрезвычайного и Полномочного посла США в Республике Беларусь Кеннета Яловица. 20.05 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Студия «Политика». 21.50 Клип-концерт. 22.00 Реклама. 22.10 «Сенсация». Худ. фильм. 23.10 Новости. 23.25 Скрижали. Фридрих Ницше. 23.30 Суперчемпион-95. Междунаролныый турнир по культуризму. 0.30 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 23.25 Новости. 8.20 «Тропиканка». Телесериал. 9.15 Человек и закон. 9.50 Семь дней спорта. Хоккей. 10.20 Мультфильм. 10.35 «Загадочный странник». Док. сериал. 16.00 Очень короткие новости. 16.05 «Элен и ребята». Молодежный сериал. 16.30 Джем. 17.00, 20.00 Время. 17.20 «Тропиканка». Телесериал. 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». Телеигра. 19.05 Тема. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Из первых рук. 20.55 «Максим Перепелица». Худ. фильм. 22.25 Версии. 22.45 Кабаре «Все звезды».

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 9.55 Телегазета. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Ключевой момент. 10.40 Клип-антракт. Н.Ветлицкая. 10.45 Ура! Каникулы. «Бабушка Нонон и я». 2-я серия. 13.20 Деловая Россия. 15.05 Там-там новости. 15.20 Разноцветная призма. 15.50 Месяцеслов. 16.20 Новая линия. 16.50 «Одиссея». Худ.фильм (Канада). 17.15 «Россия. Объяснение в любви». Художественно-публицистический цикл. Фильм 5-й. 17.45 Никто не забыт. 17.50 Сиди и смотри. 18.05 L- клуб. 18.50 Клип-антракт. Вирджиния. 19.25 Подробности. 19.35 «Царь Иван Грозный». Худ.фильм. 1-я и 2-я серии. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Океан». Худ.фильм. 1-я серия. Часть 2-я. 23.25 Экран криминальных сообщений.

## Среда, 5 июля

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 Студия «Политика». 8.30 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 9.00 Скрижали. Фридрих Ницше. 9.05 «Сенсация». Худ. фильм. 10.00 «Барби-лото». 10.30 Тэлесябрына. Всебелорусский фестиваль юмора. Часть 1-я. 10.50 «Воскресенье». Худ.фильм. 2-я серия. 12.35 Видимо-невидимо. 15.00 Новости. 15.10 «Где ты был, Одиссей?» Худ.фильм. 2-я серия. 16.25 Мультфильм. 16.35 «Дорогой Христа». Док. фильм. 17.00 «В год семьи». Благотворительный концерт. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 Мастерская. Владимир Московских. 19.00 Человек и собственность. Передача 3-я «Брестское направление». 19.30 «Крок». «Своевременно». 20.00 Коллаж. Программа для деловых людей. 20.30 День столетия. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Студия «Политика». 21.50 Клип-концерт. 22.00 Реклама. 22.10 «Сенсация». Худ.фильм. 23.10 Новости. 23.25 Экономикст. 23.35 Мотобол. Кубок европейских чемпионов. 0.05 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 23.20 Новости. 8.20 «Тропиканка». Телесериал. 9.15 В мире животных. 9.50 Семь дней спорта. Легкая атлетика. 10.20 Мультфильм. 10.35 «Загадочный странник». Док. сериал. 16.00 Шпаргалка. 16.05 «Элен и ребята». Молодежный сериал. 16.30 Тин-тоник. 17.00, 20.00 Время. 17.20 «Тропиканка». Телесериал. 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». Телеигра. 19.05 Песня-95. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.45 Софи Марсо, Брижитт Фоссей и Клод Брассер в мелодраме «Бум-1» (Франция). 22.30 Версии. 22.50 Магик-шоу.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 7.55 «Сколько в России нефти и умных людей?» Премьера док. фильма. Часть 1-я. 8.50 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 13.20 Деловая Россия. 15.05 Там-там новости. 15.20 Праздник каждый день. 15.30 Чья сторона? 16.20 Дальний Восток. 16.50 «Одиссея». Худ.фильм (Канада). 17.15 Карьера. 17.45 Непопулярная тема. 18.00 Я - лидер. 18.25 Своя игра. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 20.30 Рек-тайм. 21.05 Клуб губернаторов. 21.45 Экран криминальных сообщений. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Ночь поэзии Николая Зиновьева.

## Четверг, 6 июля

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 Студия «Политика». 8.30 День столетия. 8.35 «Сенсация». Худ.фильм. 9.30 Уроки Н.Новожиловой. 10.00 «Крок». «Своевременно». 10.30 «Лиловый шар». Худ. фильм. 11.45 «Зорная ростань». Телеконкурс молодых артистов эстрады. Финал. Передача 14-я. 15.00 Новости. 15.10 Мультфильмы. 15.25 «Янка Купала. Поклон мой народу за песни». Док.фильм. 16.15 «Хор». Фильм-концерт. 17.10 «Янка Купала». Моноспектакль. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 Экономикст. 18.55 SOS. 19.00 Обновление. Могилевский автозавод. К 60-летию предприятия. 19.30 «Крок». Провинция. Петриковский район. Передача 2-я. 20.00 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 20.30 Студия «Эксклюзив». Весы. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Студия «Политика». 21.50 Клип-концерт. 22.00 Реклама. 22.10 «Сенсация». Худ. фильм. 23.10 Новости. 23.25 Родовод. «Что ни край, то свой обычай». 24.00 Тэлесябрына. Миг искренний. 0.20 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 0.15 Новости. 8.20 «Тропиканка». Телесериал. 9.10 «Улыбка Бодхисатвы». Док. фильм. 9.55 Семь дней спорта. Теннис. 10.25 Мультфильм. 10.35 «Загадочный странник». Док. сериал. 16.00 Очень короткие новости. 16.05 «Элен и ребята». Молодежный сериал. 16.30 ...До 16 и старше. 17.00, 20.00 Время. 17.20 «Тропиканка». Телесериал. 18.10 Час пик. 18.35 Лотто «Миллион». 19.05 «Избранницы». Авторская программа Э.Рязанова. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Москва. Кремль. 21.05 «Бум-2». Мелодрама (Франция). 22.50 Версии. 23.05 Кинопанорама. 23.50 В мире джаза.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 7.55 «Сколько в России нефти и умных людей?» Док.фильм. Часть 2-я. 8.50 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 13.20 Деловая Россия. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 «Пускай смеются дети». I-й Всемирный благотворительный фестиваль искусств. 16.20 Новая линия. 16.50 «Одиссея». Худ.фильм (Канада). 17.15 Телегазета. 17.20 «Россия. Объяснение в любви». Фильм 6-й. 17.50 Эксповидео. 18.05 Шесть соток. 18.25 Музыка всех поколений. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ. фильм. 20.30 Танц-экспресс. 20.50 РТР представляет: «Елена Великая». 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 В мире авто- и мотоспорта. 23.15 «Веселая коза». Всероссийский фестиваль капустников.

## Пятница, 7 июля

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 Студия «Политика». 8.30 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 9.00 «Крок». Провинция. Петриковский район. Передача 2-я. 9.30 «Сенсация». Худ.фильм. 10.25 Королевская охота. 11.05 «Миллион приключений. Остров Ржавого генерала». Худ. фильм. 12.15 Приглашаем на вечерки. 15.00 Новости. 15.10 «Где ты был, Одиссей?» Худ.фильм. 3-я серия. 16.20 Мультфильм. 16.30 «Все мы родом из детства». II Всебелорусский телефестиваль юных талантов. Витебская область. Часть 2-я. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Брызги шампанского». Телеочерк. 19.00 Тэлесябрына. Всебелорусский фестиваль юмора. Часть 2-я. 19.20 Телебиржа. 20.05 Диалоги. Президент Белорусской республиканской Федерации ушу и вьетнамских единоборств Г.В.Гусев. 20.25 Экономикст. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Клип-концерт. 21.50 Акколада. 22.25 «Сенсация». Худ.фильм. В перерыве (23.00) - Новости. 23.35 «Мотив-чик». Музыкальная программа с участием рок-группы «Крематорий». 0.35 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 23.40 Новости. 8.20 «Тропиканка». Телесериал. 9.10 Клуб путешественников. 9.55 Семь дней спорта. Баскетбол. 10.25 Мультфильм. 10.35 «Загадочный странник». Док. сериал. 16.00 Шпаргалка. 16.05 Рок-урок. 17.00, 20.00 Время. 17.20 «Тропиканка». Телесериал. 18.10 Дикое поле. 18.30 Человек и закон. 19.00 Поле чудес. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.45 «Вдовы». Телесериал. 21.35 Версии. 21.55 Взгляд. 22.45 Музобоз.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 7.55 «Верю в Будду». Док.фильм. 8.45 Телегазета. 8.50 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 13.20 Деловая Россия. 15.05 Там-там новости. 15.20 Праздник каждый день. 15.30 Кенгуру. 15.50 Месяцеслов. 16.20 Новая линия. 16.50 Дисней по пятницам. «Яблоки, запеченные в тесте». Худ.фильм. 18.40 Горячая десятка. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 20.30 Джентльмен-шоу. 21.05 «К-2» представляет: «Ню». 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.45 «Мы и наши горы». Худ.фильм.

## Суббота, 8 июля

### Белорусское телевидение

8.00 Экономикст. 8.10 Зеркало Си-эн-эн. 8.25 Сокровища. Мозырь: ключи от города. 8.45 «Снился мне сад». Док.фильм. Детский сеанс 8.55 «Лулу - ангел цветов». Мультсериал. 9.25 «Волшебник Лад и сем принцесс». Музыкальная сказка. 9.40 «Все дело в шляпе». Игра-викторина для малышей. 10.20 Здоровье. 11.00 «Венецианский карнавал». К итогам чемпионата Европы по культуризму. 11.35 Какие мы хозяева? Проблемы энергосбережения в Беларуси. 12.25 Многозвучие. 12.55 Архивариус. Из истории белорусской оперы. «Алеся -девушка из Полесья». 13.15 Чемпионат мира по мотогонкам-95. Гран-при Германии. 13.45 Сельчане. Колхоз «Ленинский путь» Смолевичского района. Передача 2-я. 14.15 «Четвертое измерение». Духовно-просветительский канал. 15.05 Концерт мастеров искусств России. 15.40 Вера, Надежда, Любовь. Встреча с Л.Полищук и И.Костолевским. 16.10 Зорная ростань. Телеконкурс молодых артистов эстрады. Финал. 17.15 Финансовое время. 17.30 «Тропическая жара». Худ.фильм. 18.30 Банка комиксов. Музыкально-юмористическая программа. 19.00 Видимо-невидимо. 20.00 Международные спортивные новости. 20.35 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 «Житень-95». Международный фольклорный фестиваль. 23.30 «Звезды» на экране. Б.Щербаков и М.Кокшенов в фильме «Третий не лишний». 0.50 «Нов и К»-топ. 1.30 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

6.30 Телеутро. 7.45 Слово пастыря. Митрополит Кирилл. 8.00, 14.00, 23.15 Новости. 8.20 Лего-го. 8.50 «Секреты моего лета». Телесериал. 9.25 Утренняя почта. 10.00 Смак. 10.15 Здоровье. Помоги себе сам. 10.50 Провинция. Русская линия. 11.15 Бомонд. 11.35 «Капитанская дочка». Худ. фильм. 13.25 Зеркало. 14.20 Большие гонки. 14.50 «Будь проклята война». Док.фильм. Фильм 5-й «Триумф и трагедия». 15.40 Здесь учат летать самолеты. 16.25 В мире животных. 17.00, 20.00 Время. 17.25 Брэйн ринг. 18.15 «Мой дядя Бенжамен». Кинокомедия (Франция). 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.45 «Вдовы». Телесериал. 21.40 Оба-на. 22.20 До и после...

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.20 Клип-антракт. Бриллиант. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Мульти-пульти. 7.45 «От винта». 8.00 Продленка. 8.15 Мировая деревня. 8.45 Парламентская неделя. 9.30 Пилигрим. 10.15 До Москвы - далеко. 11.00 «Д'Артаньян и три мушкетера». Худ. фильм. 3-я серия. 12.15 «Жарко...» Сабантуй в Набережных Челнах. 12.45 Киноафиша. 13.20 «Терпение Мегрэ». Худ.фильм (Франция). Часть 1-я. 14.05 Клип-антракт. А.Губин. 14.15 Де факто. 14.30 Золотая шпора. 15.00 «Экстрамадура: забытые леса Испании». Док.фильм телесериала «Тайны животных». 15.55 Футбол. Чемпионат России. «Динамо»(Москва) - «Спартак» (Владикавказ). 17.55 Двойной портрет. 18.45 Клип-антракт. Ника и Е.Амирамов. 19.25 Л.Филатов в фильме «Экипаж». 1-я и 2-я серии. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Полнолуние. 23.40 Волейбол. Мировая лига. Италия - Россия.

## Воскресенье, 9 июля

### Белорусское телевидение

8.00 «Грустить не надо...» Фильм-концерт. 8.30 Колесо времени. Исторический календарь. Детский сеанс 9.00 «Как рождается музыка?» Лауреаты Международного конкурса имени Ф.Шопена. 9.45 «Конан и его молодые бойцы». Мультсериал (США). 10.15 Все в порядке, мама! Развлекательная программа. 10.45 Уроки Н.Новожиловой. 11.15 Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых. 11.35 Белорусы в Кыргызстане. 12.05 Между нами, женщинами... «Дети в беде». 12.35 Портрет в интерьере. Генеральный директор СП «Минскинтеркапс» Татьяна Щербатова. 12.55 Ситуация. Почти детективная викторина. 13.25 Фестиваль солдатской песни. Часть 1-я. 14.25 Авто-парк. 14.40 Фестиваль солдатской песни. Часть 2-я. 15.40 «Окно». Воскресный канал детского творчества. 16.40 Творцы. Встреча с земляками народного писателя Беларуси Ивана Мележа. 17.10 «Экспедиция». Научно-популярный сериал. 17.45 Стиль. 18.05 Компьютерный полигон. 18.30 Бездельник. 18.50 SOS. 18.55 Театр песни Ядвиги Поплавской и Александра Тихоновича. 20.00 Резонанс. 20.45 Колыбельная. 21.10 Ток-шоу «Карамболь» с участием главного дирижера ГАБТа Беларуси Александра Анисимова. 21.40 Реклама. 21.50 «Синема» представляет: «А теперь не смотри». Худ. фильм (Великобритания, Италия). 23.45 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

6.30 Телеутро. 8.00, 14.00, 23.20 Новости. 8.20 С утра пораньше. 8.50 Мультфильм. 9.15 Пока все дома. 9.45 Хрустальный башмачок. 10.30 Служу России! Премьера док. фильма «Наследники». 11.20 Анонсы. 11.35 Всемирная география. Тележурнал «Исследователь». 12.20 Вся Россия. 12.45 В эти дни 50 лет назад. 13.00 Под знаком «пи». 13.45 Спорт в обед. 14.20 Вокзал мечты. Ю.Башмет. 15.10 Клуб путешественников. 16.00 Окно в Европу. 16.25 Мультфильм. 17.00 Время. 17.20 Браво. Ольга Аросева. 18.00 Один на один. 18.30 Кумиры, кумиры... Хулио Иглесиас. 19.25 Пьер Ришар в кинокомедии «Несчастья Альфреда» (Франция). 21.00 Воскресенье. 21.50 «Вдовы». Телесериал. 22.45 Любовь с первого взгляда.

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.20 Клип-антракт. В.Мызников. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Мульти-пульти. 7.45 Первый дубль. 8.00 Золотой ключик. 8.15 Футбол без границ. 9.00 Атыбаты... 9.30 Доброе утро, Европа. 10.00 Консолидация. 10.05 Русское лото. 10.50 «Мушкетеры 20 лет спустя». Худ. фильм. 1-я серия. 11.55 «Эй, под дождем». Круз Кастильо в Петербурге. 12.30 Аниматека. 13.20 «Терпение Мегрэ». Худ. фильм (Франция). Часть 2-я. 14.10 Параллели. 14.25 «Помнишь ли ты?» Ю.Саульский. 14.45 Золотая ветвь. А.Манусов. 15.15 Твои возможности, человек. 15.45 Сигнальный экземпляр. 15.55 Джипси Кингс в Москве. 17.00 Волшебный мир Диснея. «Русалочка», «Новые приключения Винни Пуха». 17.55 Клип-антракт. А.Пугачева и Ф.Киркоров. 18.05 XX век в кадре и за кадром. В.Меньшов. 19.25 «Ночной поезд в Венецию». Худ. фильм (Великобритания). 21.10 Коробка передач. 21.25 У Ксюши. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Волейбол. Мировая лига. Матч за 3-е место.

